Місія дапамогі памерлым 4
Гродзенскі каталіцкі некропаль 5
Лісты чытачоў 5
Інтэрв'ю з кіраўніком каталіцкага тэатра 6

Гродна
№20 (478),
29 кастрычніка 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ





# Заканчэнне дыяцэзіяльнай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай





У літургічны ўспамін св. Яна Паўла II у гродзенскім катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя завяршылася перэгрынацыя фацімскай фігуры. З вялікай удзячнасцю і пашанай прысутныя вернікі склалі ля стоп Марыі букет, сплецены з малітвы і кветак. Урачыстасць узначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

● працяг на с. 3

"Марыя вучыць нас цноце чакання, нават калі ўсё здаецца пазбаўленым сэнсу". Папа Францішак

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XXX ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 22, 34–40**

Калі фарысеі пачулі, што Езус прымусіў замоўкнуць садукеяў, сабраліся разам. І адзін з іх, кніжнік, выпрабоўваючы Яго, спытаўся: "Настаўнік, якая запаведзь найбольшая ў Законе?". Езус сказаў яму: "«Любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёй душой тваёй, і ўсім розумам тваім». Гэта найбольшая і першая запаведзь. Другая ж – падобная да яе: «Любі бліжняга твайго, як самога сябе». На гэтых дзвюх запаведзях грунтуецца ўвесь Закон і Прарокі".

## ЛЮБОЎ – ГЭТА...

Любоў – адно з найчасцей ужываемых паняццяў, якое мае шмат значэнняў. Кожны з нас можа назваць свой улюбёны занятак, ежу, адзенне і інш. Нават некаторыя словы, якія часта паўтараем, таксама можна залічыць да катэгорыі ўлюбёных. Аднак любоў – гэта на самой справе штосьці большае, чым тое, што нам толькі падабаецца.

Пацвярджэннем сапраўднай любові з'яўляецца Крыж Хрыста. Каб быць шчаслівым у вечнасці, мы павінны ўзаемна любіць Бога ўжо тут, на зямлі. Але любоў да Усемагутнага немагчыма без любові да бліжняга. І тут шмат людзей, асабліва маладых, блытаюць яе выключна з прыемнымі пачуццямі. Аднак любоў – гэта і адказнасць, якую я бяру за жыццё і лёс асобы, якую люблю, каб было добра не толькі мне, але і бліжняму, і, канешне, рэалізацыя таго жадання.

Таму Езус у Евангеллі прыпамінае кожнаму з нас аб запаведзі любові, фактычна аб абавязку. Варта штодзень вучыцца любіць так, як Бог.

**XXXI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 23, 1–12**

Езус прамовіў да народа і вучняў сваіх такімі словамі: "Пасад Майсея занялі кніжнікі і фарысеі. Таму ўсё, што скажуць вам, рабіце і захоўвайце, але не рабіце паводле ўчынкаў іхніх. Бо яны гавораць і не робяць. Таму што яны звязваюць цяжкія і непасільныя ношы і ўскладаюць на плечы людзей, а самі не хочуць і пальцам крануць іх. Усе ж учынкі свае робяць яны дзеля таго, каб паказацца людзям. Яны пашыраюць філактэрыі свае і павялічваюць махры. Любяць першыя месцы на гасцінах і першыя лавы ў сінагогах, і прывітанні на рынках, і каб людзі называлі іх «Раббі». Вы ж не дазваляйце называць сябе «настаўнік», бо адзін у вас Настаўнік, а ўсе вы – браты. І айцом вашым не называйце нікога на зямлі, бо адзін у вас Айцец Нябесны. І не дазваляйце называць сябе кіраўнікамі, бо адзін у вас Кіраўнік – Хрыстос. Большы з вас няхай будзе слугою для вас. Бо той, хто ўзвышае сябе, прыніжаны будзе, а той, хто прыніжае сябе, будзе ўзвышаны".

## ПЫХЛІВЫЯ СЭРЦАМ

Ці можна сказаць аб сваім настаўніку – "гэта мой настаўнік"? Аб сваім начальніку – "гэта мой начальнік"? Аб сваім бацьку – "гэта мой тата"? І што мае на ўвазе Езус, калі кажа: "Вы ж не дазваляйце называць сябе «настаўнік»", "не дазваляйце называць сябе кіраўнікамі" і "айцом вашым не называйце нікога на зямлі"?

Хрыстос звяртае ўвагу на тое, каб мы ведалі сваё месца і не ўзвышаліся па прычыне ўласнага сацыяльнага статусу ці задання, якое выконваем на зямлі. Бог так стварыў людзей, што яны патрэбны адзін аднаму. Гэтая патрэба "заспакойваецца" праз наша служэнне. Калі адносімся да бліжняга не як да брата, роўнага сабе чалавека, а як да слугі ці нявольніка, калі хочам нейкіх дадатковых выгод ці прэферэнцый, на якія не заслужылі, дзейнічаем супраць праўды. А пра таго, хто хоча нічога не робячы карыстацца працай іншых, і яшчэ да таго глядзець на бліжніх зверху, трапна некалі сказаў св. Павел: "Хто не хоча працаваць, няхай таксама не есць" (2 Тэс 3, 10).

Пыха супярэчыць праўдзе і перашкаджае чалавеку ў справе збаўлення. Няхай кожны з нас імкнецца служыць, а не панаваць. Тады ўсе сапраўды будуць адзін аднаму братамі і сёстрамі.

*Кс. Павел Эйсмант*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Плён перэгрынацыі

*На працягу апошніх 6-ці месяцаў фігура Маці Божай Фацімскай вандравала па вёсках і гарадах Гродзенскай дыяцэзіі. Яна наведала ўсе парафіі, сустрэлася з тысячамі вернікаў, якія радасна віталі Прыгожую Пані, што прыйшла "з мацярынскім заданнем, каб засцерагчы чалавецтва ад Божай кары".*

У гэты час Марыя асаблівым чынам вяла католікаў з Гродзеншчыны да малітвы (асабліва да таго, каб наноў адкрыць Ружанец), да навяртання, святых сакрамантаў, да сустрэчы і камуніі са Стварыцелем. Кожны мог спазнаць радасць супольнага праяўлення веры, у чарговы раз упэўніцца, што існуе так шмат вызнаўцаў Хрыста, так многа прыхільнікаў Яго Маці.

Праз перэгрынацыю фацімскай фігуры Марыя імкнулася паказаць людзям веліч Божай ласкі, прыгадаць, што без яе мы нічога не можам учыніць. Прыйшла да нас, каб даць прыклад пакорлівасці, веры і даверу Хрысту. Наведала таксама нашы сем'і і супольнасці, дзе так часта пануе разлад, непрыязь, раскол, дзе, як сказаў некалі папа Францішак, адбываецца III сусветная вайна "па кавалках". Мы мелі магчымасць прасіць Заступніцу, якая заўсёды адчувае людскую патрэбу, ласку ясна бачыць праўду, прыгажосць і дабрыню ды не заўважаць рэчы нязначныя, якія спакушаюць сэрца.

Наведванне Марыі ў фацімскай фігуры ажывіла супольнасці, касцёльныя рухі і малітоўныя групы, узнесла позірк вернікаў у неба, увёўшы Божы Дух у жыццё. Перэгрынацыя стала таксама цудоўным шансам для ўнутранага аднаўлення, умацавання на шляху да святасці, памнажэння духоўных даброт і асабістага навяртання. Не адно чалавечае сэрца было моцна ўзрушана: так, нібы з яго знялі покрыва секулярызацыі і абыякавасці, каб адкрыць пласты веры, якія яшчэ дрэмлюць. Многія вернікі глыбока прынялі ў сэрца словы фацімскага паслання і пачалі рэалізаваць яго ў сваім жыцці: трываць на малітве, здзяйсняць епітым'ю і ўзнагароджваць за грахі. У шматлікіх сем'ях нанова запанавала любоў, адзінства і згода.

Перэгрынацыя фацімскай фігуры завяршылася. Аднак нябесная Маці застаецца з намі ў розных знаках сваёй прысутнасці – верная Праведніца Касцёла і кожнага чалавека на дарогах свайго Сына.

**Дарагія Чытачы!**

Давайце папросім Марыю, каб надалей ахоўвала нас ад псавання асабістага і грамадскага, выпрошвала ў Бога ласку веры, надзеі і любові на кожны дзень жыцця.

Вядзі нас, Найсвяцейшая Маці, да свайго Сына. Будзь з намі цяпер і заўсёды!

## "НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ"

# ЗАСТУПНІК У ВОСТРАЙ НЯСТАЧЫ: СВ. КАРАЛЬ БАРАМЕЙ



*У іканаграфіі св. Караль Барамей прадстаўлены ў кардынальскай вопратцы. Яго атрыбутамі з'яўляюцца бізун, чэрап, голуб, капялюш кардынала, распяцце, шнур на шыі, які ён насіў падчас пакаянных працэсій.*

***З вялікім клопатам і любоўю святы служыў самым бедным і патрабуючым. Будучы арцыбіскупам, будаваў бальніцы, школы для дзяцей з ніжэйшых сацыяльных класаў, фундаваў прытулкі для калек і пажылых людзей, для бяздомных і сірот. Прызначаў на гэта ўсю сваю маёмасць.***

***Шчодры да ўбогіх, ён сам жыў бедна. Падчас панавання чумы ў роднай мясцовасці прадаў усю сваю мэблю, нават ложак. Абмяжоўваўся такімі ж умовамі жыцця, якія мелі яго пададечныя ў лазарэтах. Падчас эпідэміі воспы загадаў адкрываць усе свірны і раздаваць ежу патрабуючым, з-за чаго ўдавалася накарміць 60-70 тысяч чалавек у дзень. Заклікаў аказваць дапамогу хворым, даючы ўласны прыклад наведваннем шпіталяў, здзяйсненнем духоўнай паслугі, фінансавай падтрымкай інфіцыраваных і іх сем'яў.***

***Св. Караль Барамей з'яўляецца заступнікам душпастыраў, катэхетаў, катэхуменаў, духоўных кіраўнікоў, біскупаў, семінарыстаў. Яго просяць аб дапамозе таксама ў выпадку чумы, захворванняў страўнікава-кішэчнага тракту.***

### МАЛАДЫ СТАЎ КАРДЫНАЛАМ

Караль нарадзіўся 2 кастрычніка 1538 года ў Арона, на беразе возера Лага-Маджорэ (Італія). Быў 3-ім з 6-ых дзяцей у сям'і Гілберта Барамея і Маргарыты Медычы (сястры папы Пія IV), адным з важнейшых арыстакратычных родаў Ламбардзіі.

Ужо ва ўзросце 7-мі гадоў Караль быў прызначаны да духоўнага стану і атрымаў клерыцкі ўбор. Маючы 16 гадоў, стаў сіратой. Апеку над хлопцам узяў яго дзядзька кардынал Джавані Анджэла Медычы.

Першапачаткова навучаўся ў родным замку. Пасля атрымання хатняй адукацыі паступіў ва ўніверсітэт у Павіі (Італія), які скончыў падвойным дактарантам па касцёльным і грамадскім праве. Ужо тады быў чалавекам надзвычай набожным і старанным як у веры, так і ў працы.

Як толькі дзядзьку Караля абралі на Святы Прастол, ён паклапаціўся пра перавод у Рым свайго маладога сваяка. Ва ўзросце 21 год юнак стаў дзяржсакратаром і кардыналам, хоць не быў яшчэ ксяндзом. Асвечаны на святара толькі ў 1563 годзе. У тым жа годзе атрымаў біскупскую сакру. Яго крэда можна акрэсліць 2-ма словамі: малітва і аскетызм.

Быў адным з аўтараў рэформы Касцёла ў XVI стагоддзі, здзейсненай Трыдэнцкім саборам. Належаў таксама да кола заснавальнікаў інстытута духоўных семінарый.

Памёр у Мілане ноччу з 3 на 4 лістапада 1584 года ад малярыі. Беатыфікаваны папам Кліментам VIII у 1602 годзе, kananізаваны праз 8 гадоў папам Паўлам V.

### ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. КАРАЛЯ БАРАМЕЯ?

Караль ішоў за Хрыстом ва ўбостве і пакоры. Выхаваны пры двары, у раскошы, ён здолеў адрачыся ад усяго. Святы вучыць нас стараннасці і адданасці ў штодзённым служэнні людзям, якіх Божы Провід ставіць на жыццёвым шляху.

### ЦІКАВА!

Святому рэдка ўдавалася спаць больш за 4-5 гадзін. Мог усю ноч правесці за малітвай і роздумам. Клаўся на звычайнай койцы. Брэвіярый адгаворваў на каленях. Харчаваўся хлебам і вадой, часам спажываў гародніну. Зімой адмаўляўся ад ацяплення. Насіў валасяніцу.

### З ВУСНАЎ СВЯТОГА

"Калі полымя Божай любові ўжо разгарэлася ў табе, не раскрывай яго паспешна, не выстаўляй на вецер. Сачы за агнём, каб не пагас і не страціў свайго цяпла" ("Acta Ecclesiae Mediolanensis", 1599).

### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае св. Караля Барамея 4 лістапада.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Заканчэнне дыяцэзіяльнай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай


Апранутыя на падабенства пастушкоў дзеці крочаць на чале працэсіі з фацімскай фігурай у Іўі

● працяг са с. 1

## У ЧАКАННІ СУСТРЭЧЫ

Фацімская фігура пачала сваё доўгае падарожжа па Гродзенскай дыяцэзіі ў 100-ую гадавіну аб’яўленняў Маці Божай у Фаціме. Вандроўка расцягнулася на 163 дні. За гэты час фігура наведала ўсе парафіі дыяцэзіі, завітала амаль у кожную святыню.

Вернікі рыхтаваліся да перэгрынацыі адказна і засяроджана: за 9 дзён маліліся Навэннай да Маці Божай з Фацімы, адпраўлялі фацімскія набажэнствы, супольна адгаворвалі Ружанец…

У касцёле парафіяне разам з пробашчам рабілі для фігуры трон. Упрыгожвалі яго кветкамі, вянком з дубовых лістоў на ўспамін аб тым дрэве, на якім аб’явілася Маці Божая. Пазней вернікі з парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы Польшчы ў Рагозніцы ўспомняць: ***“Здавалася, фігура Маці Божай знаходзіцца на вяршыні кветкавай гары”.***

Часам у дэкарацыях утрымліваліся вобразныя спасылкі на цуд сонца, што адбыўся ў Партугаліі, або заклікі Марыі да навяртання. Шмат дзе дарога да святыні, па якой фігуру ўрачыста ўносілі ў касцёл, была ўсцелена дыванам з кветак. Маці Божую ў фацімскай фігуры віталі ***“як самага важнага і дарагога пілігрыма”*** (адзначаюць парафіяне з касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску).

## ПЕРАПОЎНЕНЫЯ СЭРЦЫ

З песнямі і слязьмі на вачах людзі сустракалі фацімскую фігуру. Вернікі парафіі Перамянення Пана ў Селіванаўцах успамінаюць: ***“Зранку ліў дождж. Аж да таго моманту, пакуль мы не сустрэлі фігуру. Разам з тым распагодзілася і ў нашых сэрцах…”.*** Праз сваю прысутнасць у фацімскай фігуры Маці Божая адорвала людзей радасцю і надзеяй. ***“І нават калі звонку холад і цемра, нам цёпла і светла. Гэта Марыя, як агеньчык, саграваё і асвятляе ўсё навокал!”*** – упэўнены вернікі з капліцы свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Русоце.

Звычайна на пляцы перад касцёлам пробашч вітаў фігуру пацалункам, пасля чаго пад гучныя званы працэсія са шматлікімі вернікамі накіроўвалася ў святыню. Парафіяне разам удзельнічалі ў св. Імшы. Але пасля разыходзіцца ніхто не спяшаўся! Вернікі імкнуліся выкарыстаць магчымасць прыпасці да стоп фацімскай фігуры, ***“перапрашаючы Прыгожую Панну і дзякуючы Ёй, а найбольш просячы, бо хто, як не Маці, выслухае, абдыме і прытуліць”*** (узгадваюць вернікі з касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Беняконях). Як зазначаюць парафіяне касцёла свсв. Космы і Дам’яна ў Астраўцы, ***“мы ж Твае дзеці, сціплыя душой і ўбогія сэрцам”.***


Святар акаджвае фігуру Маці Божай Фацімскай на прывітанне ў касцёле ў Солах

У кожнай парафіі пасля прывітання была магчымасць індывідуальна памаліцца перад фігурай. ***“Да адной нашай парафіянкі, якая перамяшчаецца на інваліднай калясцы, пробашч пад’ехаў аўтамабільнай капліцай да самага дома. Як жа рада была жанчына дакрануцца да фігуры сваімі рукамі і адчуць яе прысутнасць побач!”*** – дзеляцца вернікі парафіі свсв. Сымона і Юды Тадэвуша ў Лаздунах.

Кранаючым момантам перэгрынацыі быў марыйны зварот апоўначы. Вернікі са свечкамі накіроўваліся за фігурай у працэсіі вакол касцёла (недзе яна праходзіла нават вуліцамі мясцовасці). ***“Па дарозе можна было заўважыць упрыгожаныя абразамі і фігурамі Маці Божай вокны”,*** – успамінаюць парафіяне касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Васілішках. Агонь мігцеў у далонях на знак палаючай веры, якая гарыць у людскіх сэрцах і не баіцца парываў ветру. Вядома, на душы ў верніка спакойна, калі перад сабой ён бачыць крыніцу святла, ад якой у любы момант можа разгарэцца ізноў і нават зазіхацець з новай сілай. ***“Пасля Пастэркі мы вярнуліся дамоў з запаленай свечкай, запрашаючы Марыю, адчыняючы дзверы ў сваю сям’ю, просячы аб цудзе”,*** – узгадваюць парафіяне з касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзятлаве.

Таксама ў святынях адбываліся інсцэніраваныя дыялогі пастушкоў і Марыі. Вернікі мелі магчымасць на ўласныя вочы і вушы прыгадаць сабе падзеі, якія мелі месца 100 гадоў таму.

## ЛАСКАВАЯ І ЛІТАСЦІВАЯ

У некаторых парафіях Маці Божая ў фацімскай фігуры стала сведкай прыняцця вернікамі парафіі пэўных сакрамантаў. Так Марыя была побач у час сплывання Божых ласкаў падчас Першай святой Камуніі ў касцёле св. Яна Хрысціцеля ў Васілішках і канфірмацыі ў касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай у Радуні, а таксама падчас сакраманту намашчэння хворых у касцёле Маці Божай Ружанцовай у Солах.

Вернікі касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Жодзішках падчас перэгрынацыі раздзялілі з Маці Божай радасць ад 450-й гадавіны стварэння парафіі. Айцы паўліны, што служаць у парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Карэлічах, узносілі падзяку Богу праз Найсвяцейшую Панну Марыю за дар 300-годдзя каранацыі абраза Маці Божай Чанстахоўскай.

Наведванне фігуры ў касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне было злучана з урачыстасцю ўнясення рэліквій крыві св. Яна Паўла ІІ, апостала фацімскіх аб’яўленняў. ***“Дзякуючы гэтаму ўрачыстасць мела падвойны характар – марыйны і папскі. Яны ўзаемна дапаўнялі адзін аднаго, нагадваючы сутнасць і актуальнасць фацімскага паслання”,*** – адзначаюць мясцовыя вернікі.

За выслуханыя малітвы Найсвяцейшай Панне Марыі дзякавалі парафіяне касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Гервятах: ***“Разам з фігурай Маці Божай у нашу парафію прыбыў і новапрызначаны пробашч, якога асіроцелая аўчарня чакала пасля заўчаснай смерці душпастыра кс. Леаніда Несцюка. Просім Цябе, Найсвяцейшая Панна Марыя, апекуйся нашай парафіяй, каб сум і смутак апошніх 4-ох месяцаў змяніўся на святло і надзею”.***


Манахіні ўрачыста ўносяць фігуру ў касцёл у Смаргоні

Падчас перэгрынацыі дэкрэт біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча аб прызначэнні новага пробашча ўважліва слухалі таксама вернікі парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе. Пасля чаго парафіяне грамадзіліся ля стоп Марыі з падзякай.

З вялікім болем фацімскую фігуру сустрэлі ў Клюшчанах: ***“Мы ўнеслі яе ў старую плябанію, бо амаль месяц таму наша святыня згарэла дашчэнту ў пажары”.*** Вернікі прасілі ў Марыі дапамогі ў справе будавання новага касцёла.

Аб дары ўзвядзення святыні прасілі і вернікі маладой парафіі ў Пагаранах. Упершыню на месцы асвячэння крыжа цэлебравалі св. Імшу. Пасля была асвечана 2-ая фігура Маці Божай Фацімскай, што наведае кожную сям’ю парафіі, якая павінна паўстаць, каб яшчэ больш духоўна з’яднаць членаў супольнасці праз Найсвяцейшую Маці. Людзі вераць у моц заступніцтва Марыі.

## КЛЮЧЫ АД НЕБА

Падчас завяршэння перэгрынацыі фацімскай фігуры ў катэдральнай базіліцы біскуп Юзаф падвёў вынікі значнай для дыяцэзіі падзеі і яшчэ раз нагадаў сутнасць марыйнага паслання. ***“Да чаго заклікаюць нас аб’яўленні ў Фаціме? Па-першае, да навяртання. Па-другое, да малітвы на ружанцы. Па-трэцяе, да даручэння сябе, сям’і і супольнасці Маці Божай. Па-чацвёртае, да пакаяння”,*** – падсумаваў іерарх. І заахвоціў прыняць святло, якое плыве з Партугаліі. ***“Даверым сябе Марыі. Няхай Яе Беззаганнае Сэрца будзе нашым сховішчам і дарогай, якая вядзе да Хрыста”,*** – заклікаў біскуп.

Пасля перэгрынацыі ў душах вернікаў застаўся ціхі смутак… Але ён звязаны з чаканнем рэальнай сустрэчы з Найсвяцейшай Маці ў Божым Валадарстве. Падчас аб’яўленняў у Фаціме Марыя дала нам ключы ад Неба, куды запрашае прабываць у вечным шчасці з Яе Сынам. А хто з нас не хоча быць шчаслівым?..

*Пры падрыхтоўцы артыкула выкарыстаны памятныя рукапісныя кнігі, якія суправаджалі перэгрынацыю па парафіях дыяцэзіі.*

*Ангеліна Пакачайла*

---

**На калені ўстаўшы цяпер перад Табою,**
**Памолімся мы аб вялікім цудзе:**
**Каб па ўсёй зямлі быў мір над галавою,**
**Каб як дзеці былі ў свеце людзі!**

*Алеся Філіпава,*
*парафія Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

---

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Смерць агаляе жыццё. Дазваляе ўбачыць, што нашы ўчынкі, натхнёныя пыхай, гневам, нянавісцю, былі марнасцю. Мы з горыччу разумеем, што недастаткова любілі і не шукалі таго, што насамрэч істотнае. І наадварот, бачым тое, што па-сапраўднаму добрае пасеялі: любімых людзей, дзеля якіх рабілі вялікія ахвяры, і якія зараз клапоцяцца пра нас.*

*Езус асвяціў таямніцу смерці. Сваім стаўленнем Ён дазволіў нам адчуваць сябе засмучанымі, калі адыходзіць блізкая асоба. Хрыстос глыбока ўзрушыўся перад магілай Лазара і “заплакаў” (параўн.: Ян 11, 35). Мы адчуваем, што ў гэтым учынку Езус вельмі нам блізкі, што Ён наш брат.*

*Зараз я заклікаю ўсіх Вас закрыць вочы і падумаць пра хвіліну сваёй смерці. Кожны няхай уявіць той момант, які наступіць, калі Хрыстос возьме за руку і скажа: “Ідзі, ідзі са Мной, устань”. Тут закончыцца надзея і пачнецца рэальнасць. Рэальнасць жыцця. Падумайце добра: сам Езус прыйдзе да кожнага з нас са сваёй пяшчотай, лагоднасцю, любоўю. І няхай кожны паўторыць у сэрцы словы Езуса: “Устань, прыйдзі!”, “Устань, уваскрэсні!”.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 18.10.2017*

---

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Адной з найпрыгажэйшых і найважнейшых рыс тэрцыярства, якая надае яму асабліва вялікую вартасць, з’яўляецца ўтоены характар. Гэтую незаўважную прысутнасць тэрцыярыяў у Касцёле і свеце можна параўнаць з хлебнай закваскай, што расчыняе ўсё цеста ў адной з Езусавых прыпавесцей, або з дробкай солі, якая надае стравам смак і засцерагае ад псавання.*

*Падобна як бл. айцец Ганарат Казьміньскі – заснавальнік 26-ці тэрцыярскіх таварыстваў, з якіх узнікла 16 манаскіх супольнасцей, у тым ліку 13 бесхабітовых, – карыстаючыся мізэрнымі сродкамі, здзейсніў вялікія Божыя справы, так кожны з Вас, дарагія Тэрцыярыі, сваёй прысутнасцю, малітвай, паставай, стараннай і сумленнай працай, добрым словам і ўчынкамі можа і павінен змяняць свет вакол сябе, рабіць яго больш людскім, памнажаць у ім супакой і дабро, згодна з францішканскім заклікам. Там, дзе Вы ёсць, – у сем’ях і супольнасцях, у месцах працы і жыхарства – Пан Езус аказвае людзям праз Вас бясконцую любоў.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас Нацыянальнага капітула Францішканскага ордэна свецкіх у Гродне, 13.10.2017*




◆ *Група католікаў з Чылі распачала малітоўную акцыю "Мільён Ружанцаў для Папы" ў намеры візіту Святога Айца Францішка, што запланаваны на студзень 2018 года. Адзін з яе арганізатараў Андрэс Хіменэс Петэрсан адзначыў, што ініцыятыва ўзнікла ў знак падзякі Богу за магчымасць прымаць у краіне Пантыфіка. "Гэтая кампанія таксама павінна прыгатаваць нашы сэрцы на прыняцце вучэння і сведчання веры, якія дае папа Францішак", – сказаў ён. З апошнім Апостальскім візітам у Чылі быў 31 год таму папа Ян Павел ІІ.*

◆ *Са згоды ватыканскай Кангрэгацыі па справах кананізацыі урна з целам св. Піо з Петрэльчыны будзе перанесена ў санктуарый Маці Божай Ласкавай у Сан-Джавані-Ратонда (Італія), дзе яна захоўвалася на працягу 42-ух гадоў пасля смерці святога ў 1968 годзе. Прычына ў тым, што ў зімовы перыяд пілігрымам складана дабрацца да новай базілікі пад тытулам стыгматыка, дзе урна была змешчана пад галоўным алтаром у 2008 годзе. Вяртанне рэліквій у санктуарый адбудзецца 26 лістапада. Яны застануцца там да V Нядзелі Вялікага посту 2018 года.*

◆ *Новы "Цэнтр адзінокай маці" адкрыўся ў Кароцічы (Украіна). Праект рэалізаваны дзякуючы сумесным намаганням Харкаўска-Запарожскай дыяцэзіі і манахінь з Кангрэгацыі Малых Сясцёр Місіянерак Міласэрнасці, якія апекуюца маці, што апынуліся ў крызісных сітуацыях. Цэнтр створаны для таго, каб дапамагчы жанчынам адужэць, стаць на ногі, знайсці працу, пакуль іх дзеці падрастуць. Дом мае 3 паверхі, разлічаны на 12 пакояў. Гэта ўжо 2-гі цэнтр для адзінокіх маці, якім апекуюцца манахіні ў гэтай мясцовасці.*

◆ *У Лондане (Вялікабрытанія) манахіні з Кангрэгацыі Дачок Міласэрнасці адкрылі рэстаран "NUNdos", дзе можна паабедаць бясплатна. Аднак, каб скарыстацць з гэтай магчымасці, неабходна выканаць адну ўмову: адмовіцца ад гаджэтаў і месць зносіны з прысутнымі. Перад уваходам у рэстаран знаходзіцца спецыяльная скрыня, дзе на некаторы час можна пакінуць свой тэлефон ці планшэт. "Ежа для душы" – так манахіні назвалі дадзены праект. Пачаставацца бясплатным абедам у рэстаране можна з аўторка па чацвер з 11.30 да 20.00.*

◆ *На даху закрыстыі катэдры Нотр-Дам у Парыжы (Францыя) функцыянуе пасека. "У гэтым годзе яна павінна прынесці 26 кг мёду, – гаворыць Нікаля Джэант, пчаляр які ёй займаецца. – Першая калонія пчол пасялілася тут 3 гады таму". Спецыяліст заўважае, што на дахах будынкаў Парыжа існуе ўжо звыш 400 пасек. Тлумачыць, што "сталічныя" пчолы збіраюць нектар галоўным чынам з кветак, пасаджаных жыхарамі на балконах, а таксама з клумб у парках і скверах.*

*credo.pro; niedziela.pl
deon.pl*

*Ангеліна Пакачайла*

# МІСІЯ ДАПАМОГІ ПАМЕРЛЫМ

*Сярод католікаў найбольш папулярная традыцыя малітвы за памерлых на 3-ці, 7-мы і 30-ты дні пасля смерці, а таксама ў кожную гадавіну. Касцёл успамінае ўсіх памерлых 2 лістапада, моліцца за іх падчас кожнай св. Імшы. Але і гэтага недастаткова для збаўлення душ, якія прагнуць дапамогі ў чыстцы.*

### ХТО НЯСТОМНА МОЛІЦЦА ЗА ПАМЕРЛЫХ?

У далёкім 1889 годзе ў Закрочыме (Польшча) бл. Ганаратам Казьмінькім і маці Вандай Алендскай была заснавана Кангрэгацыя сясцёр памочніц чысцовым душам. Харызма супольнасці палягала выключна на малітоўным клопаце аб памерлых. З цягам часу супрацоўніцтвам у справе духоўнага збаўлення душ сталі цікавіцца і свецкія асобы. Такім чынам у 1983 годзе пад апекай Кангрэгацыі ўзнікла Апостальства дапамогі чысцовым душам (АДЧД), зацверджанае Святым Прастолам.

На Беларусі рух пачаў развівацца ў канцы 1990-х гадоў. Першыя групы АДЧД у Гродзенскай дыяцэзіі з'явіліся са згоды ардынарыя Аляксандра Кашкевіча ў Лідскім дэканаце. Цяпер яны існуюць у большасці парафій дыяцэзіі. Спярша душпастырам суполак быў кс. Віктар Субель, затым – а. Анджэй Ядкоўскі CSsR.

У фармацыі апостальства дапамагаюць сёстры з кангрэгацыі, якія дзеляцца ўсёй неабходнай літаратурай. Інфармацыю пра дзейнасць руху распаўсюджваюць і самі яго ўдзельнікі. Ужо амаль на працягу 20-ці гадоў дадзеняй справай займаецца аніматар апостальства ў Гродзенскай дыяцэзіі Андрэй Слонімец. "Часам павінен ехаць на сустрэчу ў парафію, але ўласнага транспарта не маю. Таму проста даваяраю ўсё Езусу, – прызнаецца ён. – Неадназразова выходзіў на дарогу і... цудам спыняўся аўтамабіль, які ехаў якраз туды, куды мне трэба. Або аднойчы была гісторыя: спазніўся на аўтобус, каб вярнуцца дамоў. Засмуціўся. Але, на дзіва, у мясцовай краме сустрэў людзей са сваёй роднай мясцовасці! Упэўнены, у справе распаўсюджвання руху мне няраз дапамагалі чысцовыя душы".

Сёння апостальства налічвае агулам больш за 20 тысяч удзельнікаў, з якіх чвэрць знаходзіцца ў Беларусі. Пераважаюць свецкія асобы, але ёсць таксама прадстаўнікі духавенства.

### АДКАЗ НА ПАТРЭБУ

Члены АДЧД штодзённа чытаюць адвольную малітву за памерлых, ахвяруюць у іх інтэнцыі сваю працу, цяжкасці і цярпенні, учынкі міласэрнасці, адпусты і пакаянне. Па меры магчымасці замаўляюць св. Імшу або прыносяць у дар за чысцовыя душы ўдзел у Эўхарыстыі.

Бл. Ганарат Казьмінькі сцвярджаў, што дапамога памерлым – найпрасцейшая, бо амаль нічога не каштуе верніку: "Кожную справу, нават найменшую і выканаую з абавязку, можам ахвяраваць за душы ў чысцы з вялікай карысцю для іх". Гэта цяжка ўсвядоміць, але рэчы ў часовым і вечным вымярэннях маюць каласальную адрозансць. Нявялікае намаганне чалавека на зямлі (напрыклад, стрыманасць на несправядлівасць), злучанае з ахвярай Крыжа і прынесенае ў дар за чысцовыя душы, можа стакроць каштаваць ім у вечнасці (атрымаюць палёгку ў цярпенні або нават будуць збаўлены).


Палатно "Анёл вызваляе душы з чысца", Людовіка Караччы

Члены апостальства моляцца таксама за канаючых. Нават самы закаранелы грэшнік можа быць збаўлены, калі перад смерцю ён перажыве пакаянне за ўчыненыя грахі і моцнае жаданне злучыцца з Айцом. Падобным чынам адбылося са злачынцам, укрыжаваным побач з Хрыстом. На перадсмяротную просьбу ўспомніць пра яго ў Божым Валадарстве Езус адказаў: "Сапраўды кажу табе: сёння будзеш са Мною ў раі" (Лк 23, 43).

Час перад смерцю чалавека асабліва каштоўны, бо менавіта тады вырашаецца яго лёс у вечнасці. Гэта, можна сказаць, апошні шанс для кожнага скарыстаць з Божай міласэрнасці. Таму задача апостальства – праз сваю заступніцкую малітву наблізіць няшчасных у апошнія хвіліны іх жыцця да Бога.

### ЗАКОН БУМЕРАНГА

Удзячнасць за клопат аб памерлых выяўляецца ў шматлікіх ласках, адрасаваных дабрадзею ад Бога і Найсвяцейшай Маці. Безумоўна, за бліжэйшае Неба дзякуюць і самі чысцовыя душы, калі з'ядноўцца з Айцом. Яны, ужо святыя, памятаюць пра сваіх ратавальнікаў як пры іх жыцці, так і пасля смерці. Як гаварыў св. Ян Марыя Віянэй, "гэтыя душы, поўныя любові, адплацяць узаемнасцю і выпрасяць для нас у тысячу разоў больш, чым ім даём. Калі будзем у чыстцы, то гэтыя душы паспяшаюць выпрасіць у Бога для нас такую самую ласку, якую мы выпрасілі для іх". Ключавы момант тут – вечна ўдзячныя. Трэба разумець гэтую праўду даслоўна, бо душы асягнулі шчасце ў вечнасці.

Яшчэ адным прыемным бонусам для членаў АДЧД з'яўляецца тое, што яны належаць да духоўнай сям'і Кангрэгацыі сясцёр памочніц чысцовым душам. Штодня манахіні моляцца ў інтэнцыі жывых і памерлых удзельнікаў апостальскага руху. Гэта таксама з'яўляецца моцнай духоўнай падтрымкай для верніка.

Канешне, чыстага разліку ў жаданні далучыцца да апостальства быць не павінна: інакш ахвяра асобы пераўвасабляецца ў эгаістычны намер. Але ведаць пра духоўныя даброты неабходна, каб быць адкрытымі на іх і адчуваць тую містычную сувязь, якая існуе паміж жывымі і памерлымі.

### ДУХОЎНЫ ЎЗАЕМААБМЕН

Усе хрысціяне ўтвараюць агульную супольнасць у Хрысце. Гэтую праўду, выкарыстоўваючы алегорыю, аб'явіў сам Пан Езус: "Я – вінаградная лаза, а вы – галіны" (Ян 15, 5). Пра повязі ўзаемнай залежнасці нагадаў і II Ватыканскі сабор: "Еднасць пілігрымуючых з тымі братамі, якія спачылі ў спакоі Хрыста, не перарываецца цалкам. Наадварот, паводле трывалай веры Касцёла, яна ўмацоўваецца дзякуючы ўзаемаабмену духоўнымі дабротамі" (LG 49). Таму і жывыя ў стане дапамагчы памерлым, і памерлыя, знаходзячыся ў стане святасці, – жывым.

Калі паглядзець з аднаго боку, то неабавязкова ўступаць у АДЧД, каб дапамагаць чысцовым душам. Але з другога боку, дабро, здзейсненае ў супольнасці, толькі памнажаецца. Сумесныя намаганні многіх вернікаў каштуюць нашмат больш. Гэта як ускласці рукі на плечы суседа і разам з іншымі падняць цяжкі груз – аднаму такое зрабіць немагчыма.




## Акт штодзённага ахвяравання за памерлых

**Пане Езу, Адкупіцель свету, яднаючыся з Тваёй крыжовай ахвярай, прыношу Табе праз рукі Беззаганнай Маці свае малітвы і працу, радасці, цяжкасці і цярпенні ў інтэнцыі канаючых і памерлых, якія церпяць у чысцы, і прашу Цябе, май ласку прыспешыць іх уваход да нябеснай хвалы, дзе Ты разам з Айцом і Духам Святым жывеш і валадарыш на векі вечныя. Амэн.**

## ЛАМАЕМ РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ СЯРОД ВЕРНІКАЎ СТЭРЭАТЫПЫ АДНОСНА ЧЫСТЦА!

***Чысцец – гэта папраўчая калонія для грэшнікаў, якія чакаюць амністыі, каб з'яднацца з Богам і ўсёй супольнасцю святых.***

Чысцец не з'яўляецца канкрэтна вызначаным месцам, куды трапляюць душы перад уваходам у Неба. Гэта хутчэй пэўны стан або працэс, які перажывае асоба пасля смерці, каб дарастаць да любові (пасля смерці як любоў, так і яе недахоп застаюцца часткай "Я" кожнай душы, яе накапленнем за час зямной вандроўкі). З'яву ачышчэння сучасныя тэолагі разглядаюць не як пакаранне за грахі або выплату доўгу, але як неабходнасць для духоўнага росту асобы.

***У чыстцы душы гараць у агні, як у пекле. Толькі іх цярпенням, у адрозненне ад палання ў д'ябальскай бездані, ёсць мяжа.***

Па-першае, трэба падкрэсліць, што маецца на ўвазе не фізічны агонь, а толькі становішча, у якім прабывае душа. Па-другое, хоць Касцёл і выкарыстоўвае тэрмін "агонь" у дачыненні да чыстца, як і да пекла, але ў абодвух выпадках гэтае паняцце сімвалічна азначае нешта зусім іншае. Пякельны агонь – нянавісці і пыхі – наносіць боль, але не ачышчае, у адрозненне ад чысцовага. Другі ж прычыняе асобе пакуты з-за "няправільнага" жыцця, тугі па Богу і, у выніку, садзейнічае поўнаму ачышчэнню душы, каб тая змагла назаўсёды злучыцца са Стварцам.

***Мы не ў стане паўплываць на працягласць знаходжання душ у чысцы, можам толькі палегчыць іх цярпенні.***

Чысцец вобразна падобны да доўгага калідора. Пакуль на зямлі цягнецца ланцуг наступстваў ад здзейсненых грахоў, душа будзе ісці па ім невядома колькі часу. Калі ж атрымае ласку памілавання, малітоўная падтрымка на зямлі дапаможа ёй падняцца ўверх, каб нарэшце асягнуць Неба. Вельмі карысным для церпячай у чысцы душы з'яўляецца прысвечаны за яе адпуст. І нават калі не можам ахвяраваць малітву ці добрую справу ў інтэнцыі памерлага, варта хаця б прабачыць і не трымаць на яго ніякай крыўды, бо гэта толькі падаўжае цярпенне душы ў чысцы. Нездарма кажуць, што пра памерлага нельга ўспамінаць благога – альбо добра, альбо нічога.

*Ангеліна Пакачайла*

# ГРОДЗЕНСКІ КАТАЛІЦКІ НЕКРОПАЛЬ




***Могілкі ў Гродне зараз выкарыстоўваюцца як адзін з гарадскіх турыстычных аб’ектаў (асабліва папулярны сярод турыстаў з Польшчы). Існуе нават онлайн-мапа з пазначэннем некаторых пахаванняў. А ўсё чаму? На сённяшні дзень ансамбль старых гродзенскіх могілак з’яўляецца адным з самых даўніх прыкладаў цэласных гарадскіх камунальных пахаванняў на тэрыторыі Беларусі.***

### БОЛЬШ ЗА 200 ГАДОЎ

Аб’ект закладзены прыкладна ў той самы час, што і Павонзкаўскія (Польшча), Лычакаўскія (Украіна) некропалі і могілкі Роса (Літва). Тут захаваліся надмагіллі ў стылях класіцызму, эклектыкі, мадэрну, канструктывізму, зробленыя майстрамі з Гродна, Варшавы, Кіева, Вільні. Даследчыкі зазначаюць, што надмагільныя помнікі ўяўляюць сабой унікальныя аб’екты дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія не маюць аналагаў на тэрыторыі Беларусі.

Каталіцкія могілкі заснаваны ў 1792 годзе на выдзеленым з зямельнага фонду каралеўскай эканоміі надзеле ля ўсходняй мяжы горада. Іх стварэнне выклікана рашэннем выносіць з цэнтраў гарадоў могілкі пры парафіяльных храмах і кляштарах і ўтвараць камунальныя могілкі. Толькі за першыя 8 месяцаў тут пахавана каля 200 чалавек.

У 1821 годзе на гэтым месцы была пабудавана мураваная капліца. Яе фундатарам выступіў Казімір Судніцкі, камісар нерухомага маёнтка гродзенскага кляштара брыгітак. Праект капліцы падрыхтаваны губернскім архітэктарам Вільгельмам Багемюлем. У 1907 годзе да капліцы дабудавалі вежу-званіцу.

### БАГАЦЦЕ ФОРМ

У канцы XVIII – першай палове XIX стагоддзя найбольш распаўсюджанай формай надмагілляў былі абеліскі, камяні ці каменныя пліты, а таксама калоны, урны. Да 50-60-х гадоў XIX стагоддзя належаць надмагіллі-скульптуры. Пачынаючы з другой паловы XIX стагоддзя, на могілках узводзяцца невялікія абеліскі, помнікі ў форме стылізаванага дрэва са зрэзанымі галінамі.

Галоўным матэрыялам быў граніт, лабрадарыт, пясчанік, мармур, бетон і цэгла. У 30-х гадах XIX стагоддзя на могілках з’яўляюцца чыгунныя помнікі.

Сярод форм адлівак пераважаюць крыжы, упрыгожаныя раслінным арнаментам, калоны, усечаныя піраміды, пліты і надмагіллі ў форме труны ці стылізаванага дрэва. Найбольш старыя каваныя распяцці датуюцца 20-30-мі гадамі XIX стагоддзя. На змену вырабам народнага кавальства ў другой палове XIX стагоддзя прыходзіць прадукцыя механічнай вытворчасці з яе эклектычнасцю мастацкіх форм. Да пачатку XX стагоддзя адносяцца агароджы ў стылі мадэрн.

### ВОБРАЗЫ-АЛЕГОРЫІ

Помнікі на могілках багата аздоблены сімвалічнымі выявамі. Прывядзём некаторыя з іх: анёл (сімвал смутку па памерлым), арханёл з трубою і гадзіннікам-клепсідрай (абвяшчае пра надыход Апошняга Суда, калі ўваскрэснуць памерлыя; клепсідра – сімвал часу, які спыніцца ў гэты момант), бессмяротнік (паколькі кветка не вяне, то заўсёды лічылася, што яна злучае свет жывых і памерлых), матыль (яго грэчаская назва “псіхэ” паказвае, што матыль, таксама як і птушка, з’яўляецца “жывёлай душы”, яе сімвалам), якар (знак “ціхай затокі”, якую даў людзям сваім адкупленнем Езус), паходня (перавернутая, яна сімвалізуе жыццё, якое заканчваецца, гасне), дубовы вянок (эмблема Хрыста як сілы, якая праяўляецца ў бядзе, цвёрдасці ў веры і дабрачыннасці).

Асаблівай увагі на могілках заслугоўвае часткова разбураная архітэктурна-скульптурная кампазіцыя “маяк памерлых”, якая ў даўнія часы мела шырокае распаўсюджанне ў Францыі і Германіі. У верхняй частцы маяка прадугледжана месца для крыніцы агню.

### ЗНАКАМІТЫЯ ПРОЗВІШЧЫ

Найбольш старажытнае пахаванне – надмагілле Уршулі Вянгерскай (памерла ў 1799 годзе). Тут таксама пахаваны прадстаўнікі розных прафесійных і сацыяльных груп насельніцтва Гродна канца XVIII – першай паловы XX стагоддзя. Шматлікія з іх зрабілі вялікі ўклад у польскую і беларускую культуру і гісторыю.

На могілках сярод іншых пахаваны кс. Францішак Грынкевіч – каталіцкі святар, кіраўнік гродзенскага гуртка беларускай моладзі; Баляслаў Шышкевіч – выдатны скульптар, філосаф у скульптуры, які трымаў у Гродне майстэрню па вырабе надмагілляў; Аляксандр Тальгейм – гродзенскі ўрач, грамадскі дзеяч, старшыня таварыства аматараў мастацтва “Муза”; Эдвард Лістоўскі – палітычны дзеяч, першы мэр Гродна ў міжваенны час; Эліза Ажэшка – пісьменніца, грамадская дзеячка; Вільгельміна Зындрам-Касцялкоўская – пісьменніца.

Побач з капліцай знаходзіцца квартал, дзе пахавана каталіцкае духавенства (напрыклад, францысканец Мельхіёр Фордан, а таксама манахіні брыгіткі і назарэтанкі, у тым ліку мастачка Паўла Гажыч). Тут таксама пахаваны вядомыя чыноўнікі, дактары, фармацэўты, масоны, архітэктары, кавалі, генералы.

### ПА ЎЗОРЫ МОГІЛАК-ЗАПАВЕДНІКАЎ

Старыя гродзенскія могілкі фармальна закрыты для пахаванняў з 1973 года, але сёння тут адбываюцца падзахаванні сваякоў. Стан шматлікіх надмагілляў нездавальняючы (знішчаны дэкаратыўныя элементы, зламаны фрагменты кампазіцыі і г. д.). Аднак, нягледзячы на дадзеныя акалічнасці, асноўная планіроўка і мастацкае ўражанне ад цэласнага мастацкага ансамбля не страчана.

Усе вышэй пералічаныя вартасці, а таксама пагроза іх страты патрабуюць тэрміновага ўнясення могілак у спіс гісторыка-культурнай спадчыны. Думаецца, што найлепш стварыць на тэрыторыі асобную ўстанову культуры з уласнай дырэкцыяй (па ўзоры гістарычных могілак-запаведнікаў Літвы, Польшчы, Украіны). Такая адміністрацыя павінна пачаць працэс аднаўлення помнікаў і работу па папулярызацыі могілак як аб’екта наведвання.



*На старых гродзенскіх могілках спачывае многа заслужаных для горада асоб, а шматлікія надмагіллі маюць гістарычную і культурную каштоўнасць*

*Андрэй Вашкевіч, гісторык*

---

## Лісты чытачоў

***Некаторыя людзі свецяць для іншых нібы ліхтарыкі, паказваючы сваім жыццём шлях да збаўлення. З-за гэтага яны часам бываюць вынесены на смех, на няшчырыя погляды тых, для каго тое не з’яўляецца ўкладам жыцця. Але нягледзячы на гэта веруючы чалавек памятае пра сваё заданне: не саромеючыся вызнаваць веру, стараецца даносіць яе да сэрцаў, якія яшчэ не пазналі Бога. Можа, і хацелі б, але па розных прычынах з’яўляюцца далёкімі ад асалоды жыцця па навучанні Езуса. І ім, безумоўна, патрэбна дапамога, як гаючы бальзам да раны, як жыватворная крынічка. Аб такім абавязку заўсёды просяць нас, вернікаў парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Росі, кс. Чэслаў Паўлюкевіч і кс. Дзмітрый Папянюк.***

*Хочацца падзяліцца з чытачамі “Слова Жыцця” вялікай радасцю, якая пасялілася ў маім сэрцы з моманту аднаго выпадку.*

*Нядаўна я апынулася ў шпіталі. Побач у палаце ляжала жанчына, якая перанесла інфаркт. Нас было двое. Адразу прыкмеціла яе зацікаўлены позірк, калі дастала і паклала на тумбачку Біблію, малітоўнік, картачку з таямніцай Жывога Ружанца.*

*Ужо на 2-гі дзень побыту ў шпіталі жанчына прасіла мяне маліцца ўголас, каб і яна чула. З задавальненнем адказала на просьбу. Заўважыла, як падчас малітвы з вачэй жанчыны паліліся слёзы. Пасля яна распавяла пра сваё існаванне (бо назваць гэта жыццём немагчыма) і адыход ад веры. Блудныя сцежкі заблыталі шлях жанчыны і пазбавілі яе ўмення жыць па Божых запаведзях.*

*Праз некаторы час я пачула пранікнёную просьбу: “Навучы мяне, калі ласка, дарыць ружы для Марыі, як гэта робіш ты…”, – і так узрадавалася! Пачала яе вучыць. Запісала на паперу ўсе часткі і таямніцы Ружанца, пры неабходнасці тлумачыла, што незразумела. Неўзабаве жанчына прызналася, што вельмі хоча паспавядацца. Я папрасіла кс. Аляксандра Шэмета, які адпраўляў св. Імшу ў шпітальнай капліцы, каб наведаў хворую, бо ўставаць з ложка ёй па стане здароўя яшчэ не дазволілі.*

*Пасля гэтай падзеі с. Стэла Ядкоўская па просьбе ксяндза прынесла жанчыне ружанец і малітоўнік. Я ўбачыла перад сабой зусім іншага чалавека! Твар жанчыны асвятліла міласэрная ўсмешка. Штодня яна брала ў рукі малітоўнік і са слязьмі на вачах чытала малітвы. Хвала Табе, Пане!*

*Якая ж гэта была радасць для майго хворага сэрца! Спадзяюся, жанчына не пакладзе гэтыя скарбы збіраць пыл на шафу, але будзе праз свае малітвы здабываць плён для вечнасці. Яна, нібы тая блудніца, якую прывялі на суд да Езуса, пайшла за Ім, адраджаючы ў сваім сэрцы вучэнне Збаўцы.*

***Марыя, дапамажы жанчыне не збочыць з дарогі, якая вядзе да Твайго Сына! Маю надзею, яна будзе з удзячнасцю дарыць Табе ружы да апошніх дзён жыцця.***

*Алена Блажэеўская, г.п. Рось*

---




Catholic.by

### *Беларускую мемарыяльную шыльду змесцяць у рымскай святыні*

***Бронзавая табліца са словамі ўдзячнасці святым Кірылу і Мятоду ад беларускага народа будзе ўсталявана ў двовыку базілікі св. Клімента на Латэране.***

*Яна з’явіцца ў дадзеным месцы невыпадкова, таму што менавіта ў гэтай старажытнай святыні знаходзіцца магіла аднаго з Апосталаў славян – св. Кірыла. Па такой прычыне акурат тут вырашана ўсталяваць памятную табліцу ў гонар дзеячаў, якія паспрыялі распаўсюджванню Божага слова ў Беларусі.*

*Мемарыяльная шыльда выканана яшчэ ў 1998 годзе славутым беларускім скульптарам Валяр’янам Янушкевічам. Зробленыя ім памятныя знакі ёсць не толькі на будынках у гарадах Беларусі, але таксама ў Празе (Чэхія) і Кракаве (Польшча) – месцах, звязаных з жыццём і дзейнасцю Францішка Скарыны.*




### *Уручаны ўзнагароды “Карытас Польшча”*

***Адзнакі “Ubi Caritas” прызнаюцца за выключную ўразлівасць да патрэб бедных і актыўны ўдзел у дабрачынных акцыях.***

*Асаблівай з’яўляецца Спецыяльная ўзнагарода дырэктара “Карытас Польшча”, якую ў гэтым годзе ўручылі с. Уршулі Бжонкалік, францысканцы місіянерцы Марыі. Манахіня служыць у Алепа (Сірыя). Яна вельмі моцна ўключылася ў справу міласэрнасці – дапамогу бедным людзям. Супрацоўнічае з усімі хрысціянскімі Касцёламі (і не толькі), дапамагае кожнаму патрабуючаму.*




### *Расце колькасць католікаў у свеце*

***Сёння іх 1,3 мільярды, што складае амаль 18% усяго чалавецтва.***

*Апошнія даныя паказваюць, што ў Афрыцы жыве больш за 220 мільёнаў католікаў, якія складаюць амаль 5-ую частку насельніцтва кантынента. У абедзвюх Амерыках сярод 980-ці мільёнаў жыхароў звыш 63% католікаў. У Азіі – 141 мільён, а ў Еўропе – 285 мільёнаў, што складае каля 40% усіх еўрапейцаў. У 216-ці каталіцкіх школах свету вучыцца 60 мільёнаў вучняў.*

*Даныя ўключаны ў статыстычны штогоднік каталіцкага Касцёла. Лічбы прыведзены агенствам Кангрэгацыі евангелізацыі народаў “Fides” у сувязі з Сусветным місійным днём.*

*Кінга Красіцкая*




*Паводле якога прынцыпу святароў і манахінь пераводзяць з адной парафіі ў іншую?*

*Змена месца служэння пробашчаў ці манаскіх сясцёр з'яўляецца чымсьці звычайным у практыцы Касцёла на працягу стагоддзяў. Пераводзіць духавенства можа дыяцэзіяльны біскуп ці найвышэйшы настаяцель канкрэтнай манаскай супольнасці, якому духоўная асоба падчас пасвячэння абяцала паслухмянасць. Гэта яны адказваюць за адпаведную арганізацыю душпастырства і падбор духавенства на месцы служэння.*

*Няма нейкіх сталых правіл наконт пераводу духоўных асоб. Кананічнае права дазваляе пэўную свабоду ў гэтым сэнсе: дае агульнае правіла дзейнасці Касцёла, нагадваючы, што трэба заўсёды мець на ўвазе збаўленне душ (кан. 1752, ККП). Пан Езус сказаў Апосталам: "Хто прымае вас, Мяне прымае. А хто прымае Мяне, прымае Таго, хто паслаў Мяне" (Мц 10, 40).*

*Галоўнай прычынай змен з'яўляюцца душпастырскія патрэбы вернікаў, другаснай – неабходнасць узварушэння для самаго духавенства. Праз нейкі час любы чалавек па сваёй натуры можа "выгарэць", з-за чаго перастае быць крэатыўным, не мае свежых ідэй. І тады новае месца служэння для духоўнай асобы – шанс на тое, каб з запалам ажывіць душпастырства ў іншай парафіі. Звычайна змена асяроддзя пэўным чынам мабілізуе да дзеяння, змушае паставіць перад сабой больш высокую планку.*

*Такія рэформы патрэбны не толькі святарам, манаскім сёстрам, але таксама і вернікам, сярод якіх служыць духавенства. Безумоўна, з-за гэтага ў коле парафіян можа панаваць узрушэнне, бо людзі прызвычаіліся да пэўнай духоўнай асобы. Але дадзеныя абставіны спрыяюць таму, што новы чалавек здольны ўнесці свой погляд на канкрэтныя справы, інакш ацаніць розныя рэчы. А калі святар ці манаская сястра яшчэ вызначаюцца нейкай асаблівай харызмай, то змена парафіі можа толькі пасадзейнічаць таму, што большая частка вернікаў выкарыстае прысутнасць такой асобы.*

*На справу пераводу духавентва трэба глядзець са звышнатуральнага пункту гледжання, а не толькі выключна з людскога. Пан Бог усюды хоча мець "сваіх" людзей. І здараецца так, што дзіўным чынам праз біскупа ці найвышэйшага настаяцеля Ён паказвае, як вельмі патрабуе гэтага канкрэтнага святара ці манаскую сястру менавіта тут і цяпер.*

*А. Аляксандр Махнач SP*
***Паводле catholicnews.by***

# УВЕСЬ НАШ ТАЛЕНТ І ТВОРЧЫ ЗАПАЛ ДЗЕЛЯ БОЛЬШАЙ ХВАЛЫ БОЖАЙ!

**Тэатр імя св. Яна Паўла II адзначыў 10-годдзе свайго існавання. Урачыстасці з гэтай нагоды адбыліся ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне. Акцёры дзякавалі Усемагутнаму за дар веры, таленту, за тэатральную супольнасць і прасілі аб Божым блаславленні на далейшую актыўную і плённую працу на сцэне.**

**Юбілейная дата – гэта заўсёды пэўны рубеж, час падвядзення вынікаў. У сённяшнім нумары "Слова Жыцця" заснавальніца і нязменны кіраўнік тэатра Марына Жыбартовіч-Протас распавядае пра тонкасці працы на ніве тэатральнага мастацтва.**




**Тэатр імя св. Яна Паўла II ужо паспеў заваяваць сэрцы многіх гледачоў, для некаторых ён нават стаў любімым. Адкуль з'явілася ідэя яго стварэння, і з чаго пачаўся Ваш асабісты творчы шлях?**

Тэатральны свет вабіў мяне з самага дзяцінства. Я марыла стаць балярынай. Жаданне не здзейснілася ў тым выглядзе, у якім хацелася, але рэалізавалася так, як пажадаў Пан Бог.

Сваю працу на ніве творчага мастацтва я пачынала ў мястэчку Воўпа, дзе дзякуючы маім намаганням паўстаў тэатр "Віфлеемская зорка". Гэтая праца была свайго роду рэалізацыяй дзіцячых мар. Акрамя таго, я зразумела, што працуючы з дзецьмі змагу зрабіць значна больш, чым здолела б адна. Таму калі ў 2007 годзе прыехала ў парафію Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне, у мяне нават сумненняў не было, што тут павінен быць тэатр. Гэтую ідэю падтрымалі айцы рэдэмптарысты. Для іх таксама важна, каб з дзецьмі і моладдзю вялася праца ў творчым накірунку. Такім чынам нарадзіўся Тэатр імя св. Яна Паўла II. Яго духоўным кіраўніком стаў а. Станіслаў Станеўскі CSsR.



**Чаму ў якасці апекуна абралі менавіта Яна Паўла II?**

Тэатр быў часткай жыцця Святога Айца. Ён іграў у школьных спектаклях, хацеў стаць акцёрам ці драматургам. Таму цяжка сабе ўявіць лепшага апекуна! І хоць на той момант, калі тэатр толькі пачынаў сваю дзейнасць, Ян Павел II яшчэ не быў абвешчаны святым, яго словы, навучанне і прыклад жыцця давалі нам імпульс для развіцця і рэалізацыі творчых планаў.

**Вашы спектаклі – сапраўдны сінтэз літаратуры, музыкі, харэаграфіі, вакалу і выяўленчага мастацтва. Як нараджаюцца ідэі пастановак? Адкуль чэрпаеце натхненне?**

Я не маю спецыяльнай адукацыі, таму дзейнічаю па натхненні. Яго чэрпаю з неба, з людскога жыцця, часам з нейкіх звычайных бытавых сітуацый. Магчыма, тое, што скажу, прагучыць крыху пафасна, але, думаю, толькі дзякуючы дзеянню Святога Духа ў мяне атрымліваецца прыдумляць сцэнарый і ўвасабляць яго ў жыццё. Здараецца, што ідэі з'яўляюцца наўпрост на сцэне падчас рэпетыцый. Час ад часу самі акцёры падказваюць новыя магчымасці развіцця сюжэта.

Тэатр – асаблівы від мастацтва са сваімі ўнікальнымі і сапраўды бязмежнымі выразнымі магчымасцямі. Таму мне цікава любая рэжысура. Падабаецца спалучаць неспалучаемае. Часам бывае, што гледачы не зусім разумеюць нейкія неардынарныя спектаклі, тады падаецца, што, можа, варта гаварыць прасцей. Але пасля адмаўляешся ад гэтай думкі, бо тэатр усё ж такі павінен прымушаць задумацца. Лічу, што не трэба абмяжоўвацца і замыкацца ў адным жанры. І справа не ў наватарстве. Справа ў дасягненні змястоўнасці, асэнсаванасці, ва ўздзеянні на гледача. На тое ён і тэатр, каб быць шматгранным!

У кожнай нашай пастаноўцы прысутнічае выхаваўчы момант, а ў аснове сюжэта ляжаць разважанні пра агульначалавечыя каштоўнасці, пра дабро і зло, пра тое, што такое сяброўства, павага і любоў. Праз сваю дзейнасць стараемся сеяць Бога ў сэрцах людзей. Упэўнена, што калі хоць адзін чалавек выйшаў пасля прагляду пастаноўкі і захацеў нешта змяніць у сваім жыцці, спектакль меў поспех. А найвялікшая ўзнагарода – калі людзі пасля нашага выступлення вяртаюцца да нейкіх момантаў, разважаюць.

**Якімі здольнасцямі павінна валодаць дзіця, каб трапіць у Тэатр імя св. Яна Паўла II?**

Вельмі важна адзначыць той факт, што тэатр стварыўся для ўсіх дзяцей без выключэння – з розным узроўнем здольнасцей і падрыхтоўкі. Наш кантынгент – ад дашкалят да студэнтаў. Часта бацькі задаюць пытанне: "А калі маё дзіця танцуе, а спяваць не ўмее (ці наадварот), што ж рабіць?". Я заўсёды адказваю: "Калі ёсць жаданне займацца творчасцю, прыходзьце!". Мы не праводзім кастынгі, і кожны ахвочы можа паспрабаваць свае сілы. Стараемся развіваць моцныя бакі кожнага ўдзельніка, а слабыя паступова "падцягваем". У нашых пастаноўках адначасова прымаюць удзел каля 30-ці дзяцей. І кожнаму з іх неяк удаецца знаходзіць прыдатны вобраз.

Канешне, не кожны, хто прыходзіць, застаецца, бо тэатр – гэта сапраўды цяжкая праца, якая патрабуе шмат часу і высілкаў.

**Ці ёсць у тэатры нейкія традыцыі?**

Безумоўна. Пасля выступленняў, калі атрымліваем на рукі фотаздымкі і відэа, заўсёды арганізоўваем сумесны прагляд-успамін за гарбатай і салодкімі пачастункамі. Перад Божым Нараджэннем збіраемся разам, каб падзяліцца аплаткай. Таксама ва ўспамін св. Станіслава Косткі рыхтуем вечарыну, каб павіншаваць нашага духоўнага кіраўніка а. Станіслава Станеўскага CSsR. Але найважнейшая традыцыя – гэта звычайныя рэпетыцыі, калі цяжка працуецца, але тым самым здабываюцца новыя веды і ўменні, што дазваляе падняцца на больш высокі ўзровень.

Тэатр пакідае ў сэрцы кожнага ўдзельніка незабыўны след. Таму ўжо будучы студэнтамі ці нават сямейнымі людзьмі, нашы былыя акцёры знаходзяць час, каб прыйсці на сустрэчу альбо прыняць удзел у якой-небудзь імпрэзе. І гэта вельмі прыемна, што для іх тэатр не скончыўся, як нейкі факультатыў ці кружок.

**Раскажыце пра гастрольную дзейнасць тэатра. Яна ёсць?**

Кожны год прадстаўнікі тэатра (група з 15-ці чалавек) прымаюць удзел у Міжнароднай парафіядзе ў Варшаве. Моладзь дэманструе свае артыстычныя здольнасці і выступае на вельмі высокім узроўні, аб чым сведчаць шматлікія ўзнагароды. Больш не маем асаблівай магчымасці гастраліраваць, паколькі асноўная частка нашых тэатральных пастановак прымеркавана да каталіцкіх свят. Прадставіць іх публіцы можна толькі ў пэўны час, напрыклад, у калядны ці велікодны перыяд. Але хачу падкрэсліць, што мы адкрытыя на прапановы. І калі якая-небудзь з парафій нас запросіць, то з задавальненнем прыедзем.

Наша мара – выступаць не толькі перад людзьмі, якія ведаюць Бога, але выйсці, напрыклад, на сцэну драматычнага тэатра ці гарадскога дома культуры, каб прадставіць шырокай публіцы свае творчыя эксперыменты і такім чынам евангелізаваць.

**Вам даводзіцца быць адначасова і кіраўніком, і рэжысёрам, і харэографам. Гэта, безумоўна, вельмі цяжкая праца. Як удаецца пазбягаць прафесійнага выгарання?**

Шчыра кажучы, штогод думаю, што новага яшчэ я здольна прыдумаць. Кожны спектакль здаецца вяршыняй, вышэй за якую не ўзысці. Але дзеці матывуюць мяне да далейшай працы. Ведаеце, калі літаральна пасля прэм'еры яны падыходзяць да мяне з пытаннем "Што наступнае мы будзем рыхтаваць?", я разумею, што не маю права спыніцца, сказаць, што больш нічога новага не будзе. Мае выхаванцы вераць у мяне, і дзякуючы ім хочацца прафесійна расці і рэалізоўваць сябе. Разам у нас многае атрымліваецца, ставім перад сабой больш складаныя задачы і выконваем іх.

Дзеці мяне натхняюць. Працаваць з імі – сапраўднае задавальненне. Дзеці самыя шчырыя, сапраўдныя, жывыя. Ад іх атрымліваеш такі запал! З задавальненнем назіраю, як маладыя людзі раскрываюцца, растуць як акцёры, асобы.

**Ці нехта яшчэ дапамагае Вам ствараць відовішча?**

Так, сапраўды ёсць людзі, якія часцяком застаюцца для гледача непрыкметнымі. З намі супрацоўнічае Ліна Завадзкая – цудоўны чалавек, які шые нам касцюмы і такім чынам дапамагае ў рэалізацыі творчых задумак. Таксама дзякую Богу за Ганну Кулікоўскую, педагога па вакалу. Яна працуе не толькі над голасам, але таксама і над псіхікай дзяцей і моладзі.

**Якім Вы бачыце заўтрашні дзень тэатра? З якім настроем глядзіце ў будучыню?**

Даўно выношваю ў сэрцы задуму паставіць мюзікл. Ужо было некалькі спроб, але да канца гэтая ідэя яшчэ не выспела. Зерне ёсць, таму чакаю, калі прыйдзе час яму прарасці. Прыглядваюся да акцёраў, якія б маглі сыграць на сцэне, а таксама прыняць удзел у напісанні музыкі і тэкстаў.



Я люблю тэатр за бязмежжа яго магчымасцей. І мне як кіраўніку вельмі важна, каб ён працягваў рухацца наперад і развівацца. Спадзяюся, што мастацтва тэатра і надалей будзе заставацца запатрабаваным і неабходным, а ў нас хопіць сіл на рэалізацыю ўсіх планаў, якіх, дарэчы, вельмі шмат.

*Кінга Красіцкая*

## НАВІНЫ

**Праз заступніцтва св. Яна Паўла II**



У кастрычніку Гродзенская дыяцэзія, якая ўдзячна сваім стварэннем Пантыфіку, узгадвае 2 важныя даты, звязаныя з яго постаццю: 16 кастрычніка – гадавіну абрання святога Папы на Апостальскі Пасад, 22 кастрычніка – яго літургічны ўспамін.

Напярэдадні Папскага дня ў касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне былі ўнесены рэліквіі крыві св. Яна Паўла II. Яны былі перададзены ў святыню кардыналам Станіславам Дзівішам, Мітрапалітам Кракаўскім на пенсіі і шматгадовым асабістым сакратаром Пантыфіка. Урачыстую цырымонію ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Пасля св. Імшы кожны прысутны вернік мог асабіста ўшанаваць рэліквіі пацалункам. Ад гэтага моманту яны на стала застануцца ў святыні. На 10-ты дзень пасля ўрачыстасці ў касцёле адбылася малітоўная сустрэча і чуванне, прымеркаванае да літургічнага ўспаміну св. Яна Паўла II.

На парозе 39-й гадавіны абрання святога Папы на Апостальскі Пасад быў асвечаны крыж пры ўездзе ў мікрараён Пагараны ў Гродне. Падзею ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч у прысутнасці шматлікіх вернікаў, якія хочуць, каб у будучыні для Пагаранаў і Кашэўнікаў была пабудавана святыня. На сёння дэкрэтам біскупа тут заснавана парафія пад тытулам св. Яна Паўла II. Зараз трывае этап узгаднення ўсіх фармальнасцей, звязаных з дзяржаўнай рэгістрацыяй парафіі. Вернікі перакананы, што святы заступнік дапаможа ім у станоўчым вырашэнні ўсіх спраў адносна будаўніцтва касцёла.

Да Папскага дня былі прымеркаваны святкаванні ў касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне. У іх межах адбылася св. Імша, якую цэлебраваў а. Дзмітрый Лабкоў CSsR, а таксама літаратурна-музычная праграма. Журы падвяло вынікі паэтычна-тэатральнага конкурсу "Пойдзем наперад з надзеяй" і ацаніла рукадзельныя творы, прадстаўленыя на выставе ў касцёле.

У дзень літургічнага ўспаміну св. Яна Паўла II вернікі парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі сабраліся каля мясцовага помніка ў гонар дружбы і адзінства рэлігій, на адной з арак якога знаходзіцца рэльеф Пантыфіка, і памаліліся аб яго святым заступніцтве.

### З ЖЫЦЦЯ МАНАСКІХ СУПОЛЬНАСЦЕЙ



Айцы з Ордэна пабожных школ (піяры) са Шчучына арганізавалі для актыўнай парафіяльнай моладзі інтэграцыйны выезд у Гродна. Пасля св. Імшы ў касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля маладыя людзі прынялі ўдзел у культурна-забаўляльнай праграме. Падобныя выезды для моладзі айцы піяры ладзяць прыкладна раз на паўгода.

У кляштары Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта (назарэтанкі) у Навагрудку адбылася сустрэча сем'яў. У ёй прынялі ўдзел сужэнцы разам з дзецьмі з Гродна, Ліды, Навагрудка і Мінска. Трохдзённае спатканне па традыцыі ўяўляла сабой рэкалекцыі для сямейных пар. Наступныя духоўныя практыкаванні падобнага роду запланаваны ў Навагрудку з 30 снежня па 1 студзеня.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Нямала падзей адбылося за апошні час у гродзенскай семінарыі. Клерыкі мелі магчымасць перажыць чарговы дзень засяроджання, які правёў кс. Аляксандр Мацкевіч, канцлер Гродзенскай курыі і выкладчык ВДС. На гэты раз семінарысты разважалі над урыўкам з Евангелля паводле Лукі аб Езусе і Закхеі (Лк 19, 1–10).

Напярэдадні духоўных практыкаванняў алюмны разам з прэфектам кс. Андрэем Лішко наведалі дзіцячы дом-інтэрнат у Радуні. Клерыкі гулялі з мясцовай камандай у футбол, разам бавіліся і размаўлялі на хвалюючыя тэмы.

На логіку і кемлівасць навучэнцы ВДС спаборнічалі ў інтэлектуальнай гульні "Бітва розумаў". У выніку перамаглі першакурснікі.

### НАГОДА ДЛЯ СУПОЛЬНАЙ МАЛІТВЫ



У межах мерапрыемстваў, прымеркаваных да Сусветнага дня хоспіснай і паліятыўнай дапамогі, адбыўся Дзень памяці і малітвы за спачылых пацыентаў. Св. Імша з гэтай нагоды была цэлебравана а. Паўлам Раманчуком OFMConv у касцёле Маці Божай Анёльскай у Гродне. Яе ініцыятарам выступіла сацыяльна-дабрачынная ўстанова "Цэнтр Дапамогі Жыццю". Валанцёры і супрацоўнікі цэнтра, а таксама супрацоўнікі хоспісаў сабраліся на супольнай малітве, каб ушанаваць памяць пацыентаў і адгаварыць у іх інтэнцыі "Вечны адпачынак".

З нагоды ўспаміну св. Лукі, апекуна медыкаў, у шпітальнай капліцы Маці Божай з Лурда ў Лідзе адбылася св. Імша, якую ўзначаліў а. Анджэй Ядкоўскі CSsR. Яна была адпраўлена ў інтэнцыі работнікаў службы аховы здароўя мясцовай бальніцы і Кола Жывога Ружанца св. Лукі. Сабраныя медыкі дзякавалі Богу за сваю паслугу і прасілі сілы на далейшае служэнне.

### ПАРАФІЯЛЬНЫЯ АДПУСТЫ



Дзень імянін сваіх касцёлаў нядаўна адсвяткавалі вернікі парафій св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне, св. Яна Паўла II у Смаргоні, Маці Божай Тройцы Цудоўнай у Мастах, свсв. Сымона і Юды Тадэвуша ў Лаздунах (дэканат Іўе) і Воранаве (дэканат Радунь), св. Юды Тадэвуша ў Вішневе (дэканат Смаргонь). Усе, хто ў дзень успаміну заступніка святыні наведвае касцёл і ў стане ласкі моліцца ў інтэнцыях Святога Айца, атрымлівае адпуст, які можна з вялікай духоўнай карысцю ахвяраваць за сябе або за памерлую асобу.

Бліжэйшыя парафіяльныя адпусты ў Гродзенскай дыяцэзіі адбудуцца 1 лістапада ў касцёле Найсвяцейшага Збавіцеля і Усіх Святых у Гродне (дэканат Гродна-Захад), 3 лістапада ў капліцы св. Губерта ў Бакштах (дэканат Іўе) і 12 лістапада ў касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне.

### АДНЫМ РАДКОМ



• Адкрыццё новага навучальнага года адбылося на Міждыяцэзіяльных курсах сямейнага жыцця ў Гродне, куды ў бягучым годзе залічаны 20 слухачоў. • Нацыянальным настаўцелем Францішканскага ордэна свецкіх у Беларусі на чарговы тэрмін абрана Марыя Этоль з гродзенскай парафіі Маці Божай Анёльскай. • Канцэрт хрысціянскага гурта "Laudans" адбыўся ў моладзевым араторыі ў Смаргоні. • Юбілей 25-годдзя капліцы Божай Міласэрнасці адсвяткавалі ў Паляцкішках (дэканат Радунь).

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

*Ангеліна Пакачайла*

## АНОНСЫ

### ДУХОЎНАЯ СУСТРЭЧА ДЛЯ ЮНАКОЎ ПРОЙДЗЕ Ў ШЧУЧЫНЕ

**Спатканне адбудзецца 3–5 лістапада пры парафіі св. Тэрэзы Авільскай.**

Духоўныя сустрэчы – гэта асаблівы час спаткання з Панам у Яго слове і добрая нагода, каб паспрабаваць распазнаць сваё жыццёвае пакліканне.

Да ўдзелу запрашаюцца хлопцы ад 14-гадовага ўзросту. Запіс трывае да 31 кастрычніка (уключна).

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 029) 789-06-27, а. Аляксандр Махнач SP.*

### АЙЦЫ ФРАНЦЫСКАНЦЫ ЗАПРАШАЮЦЬ НА РЭКАЛЕКЦЫІ

**Духоўныя практыкаванні для юнакоў пройдуць пад дэвізам "Жыццё без маскі".**

Сустрэча запланавана на 3–5 лістапада.

*Больш інфармацыі пра рэкалекцыі і ўмовы ўдзелу можна атрымаць па тэлефоне: (8 029) 888-97-82, а. Павел Раманчук OFMConv.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ ПРОЙДУЦЬ У АДАМАВІЧАХ

**На сустрэчу пад дэвізам "Дзе скарб твой, там і сэрца тваё" (Мц 6, 21) запрашаюць сёстры Кармэліткі ад Дзіцятка Езус.**

Духоўныя практыкаванні для дзяўчат ад 14-ці гадоў адбудуцца 3–5 лістапада пры парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Пачатак у 13.00.

*Запісацца на рэкалекцыі можна па тэлефонах: (8 029) 884-39-67 – с. Ідалія, (8 029) 267-13-03 – с. Паўліна.*

### ІМША ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ВЕРНІКАЎ АДБУДЗЕЦЦА Ў ВОСТРАЙ БРАМЕ

**Літургія запланавана ў межах Дзён супольнай малітвы для вернікаў розных нацыянальнасцей і адпустовых урачыстасцей Апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Міласэрнасці, якія пройдуць у Вострай Браме 12–19 лістапада.**

Супольная малітва для католікаў з Беларусі адбудзецца 18 лістапада ў 15.00 у касцёле св. Тэрэзы (побач з капліцай цудатворнага абраза Маці Божай Вастрабрамскай).

*Да ўдзелу запрашаюцца вернікі з усіх дыяцэзій краіны.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ СІНОД РАСПАЧНЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**16 лістапада, ва ўрачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя адбудзецца пачатак І Сінода Гродзенскай дыяцэзіі. Яго дэвізам стануць словы: "Жыць Евангеллем".**

**Праграма:**

10.00 – канферэнцыя на тэму "Духоўныя і тэалагічныя аспекты дыяцэзіяльнага сінода ў Гродзенскай дыяцэзіі" (могуць прыняць удзел як духоўныя, так і свецкія асобы);
– адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
12.00 – урачыстая св. Імша на распачацце сінода.

*Дыяцэзіяльны сінод з'яўляецца кансультатыўным сходам, які ўтвараюць святары, кансэкраваныя і свецкія асобы Касцёла на Гродзеншчыне. Сінод скліканы біскупам Гродзенскім Аляксандрам Кашкевічам для апісання і вызначэння аблічча партыкулярнага Касцёла з нагодай узрастання ў веры і любові ў супольнасці.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**30 кастрычніка 1936 г.** – кс. Юліян Юркевіч, *праб. Радунь;*
**1 лістапада 1972 г.** – кс. Мар'ян Чабаноўскі SchP, *праб. Ліда;*
**2 лістапада 1952 г.** – кс. Людвік Віткоўскі SDB, *праб. Дварэц;*
**9 лістапада 1950 г.** – кс. Часлаў Дабулевіч, *праб. Нача;*
**10 лістапада 1940 г.** – кс. Казімір Лабан, *праб. Цудзенішкі.*

## Каляндар падзей

***1 лістапада***
*Урачыстасць Усіх Святых.*

***2 лістапада***
*Успамін усіх памерлых вернікаў.*
*За наведванне могілак 1–8 лістапада можна атрымаць поўны адпуст.*

***7 лістапада***
*Распачацце Навэнны перад урачыстасцю НПМ Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці – галоўнай заступніцы дыяцэзіі.*

***9 лістапада***
*Свята гадавіны асвячэння Латэранскай базілікі, катэдры біскупа Рыма – маці ўсіх каталіцкіх касцёлаў у свеце.*
*Молімся аб патрэбных ласках для Святога Айца Францішка ў кіраванні Паўсюдным Касцёлам.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 5 снежня.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Лістапад***

*За Святога Айца Францішка і папу на пенсіі Бенедыкта XVI.*

*Аб беатыфікацыі і канізацыі духоўных і кансэкраваных асоб, а таксама свецкіх вернікаў з нашай зямлі.*

*Аб дары добрай падрыхтоўкі да дыяцэзіяльнага сінода.*

ЧАМУЧКІ
Дзіцячая рубрыка

## Чаму трэба маліцца за памерлых?





У касцёлах штодня на працягу месяца лістапада зачытваюцца запіскі з імёнамі памерлых. Вернікі з даверам узносяць Богу малітвы за тых, хто ўжо адышоў у вечнасць і мае патрэбу ў духоўнай падтрымцы. Гэтыя душы чакаюць дапамогі ў чысцы.

Пасля смерці жыццё чалавека не скончылася, а толькі змянілася. Таму тое, што кожны не здзейсніў пры жыцці, здзяйсняецца пасля смерці. У чысцы так жудасна і балюча, бо душа разумее ўсе таямніцы, адчувае любоў Бога і моцна пакутуе з-за таго, што не можа пакуль яшчэ ўвайсці ў Нябеснае Валадарства.

Многія з тых, хто знаходзіцца ў чысцы, не паспелі навярнуцца да Бога. Хтосьці маліўся, ішоў па дарозе навяртання, але не скончыў шлях, які вядзе ў Нябеснае Валадарства. Нехта змог "заскочыць" у чысцец у апошнюю хвіліну, калі перад самай смерцю звярнуўся да Бога, бо Яго міласэрнасць бязмежная. Таму шматлікім памерлым так неабходна наша малітоўнае заступніцтва на зямлі.

Трэба разумець, што чалавек набывае вечнае жыццё не пасля смерці, а ўжо пры зямным жыцці. Смерць цела не павінна страшыць: гэта непазбежна. Страшна, калі мы, паміраючы, будзем далёкія ад Бога. Але каб таго не адбылося, трэба пры жыцці старацца дбаць пра сваю душу і быць добрымі для іншых, каб пасля яны падтрымалі нас у малітве пасля смерці. Пра гэта і нагадвае наступная гісторыя.

**Жыло-было Жыццё. Было яно лёгкім, паветраным, гуллівым. Жыло сабе прыпяваючы. Лётала па свеце то тут, то там... Усё проста ў яго атрымлівалася. На шляху сустракаліся розныя людзі: сябры, сваякі, суседзі, калегі. Часам здаралася так, што магло крыўду затрымаць на таго, хто, як здавалася, думае пра яго блага.**

**Але вось аднойчы Жыццё сустрэла Смерць.**

**– Ты хто? – спытала Жыццё.**

**– Я? Смерць! – адказала Смерць.**

**– А каго шукаеш? – спытала Жыццё.**

**– Шукаю тых, хто збірае крыўды, шмат скардзіцца, думкі ў сабе дрэнныя захоўвае. Такія людзі стаміліся быць у гэтым свеце. І я, калі сустракаю, забіраю іх у іншы свет.**

**Паслухала Жыццё Смерць і задумалася: "А я ж таксама крыўды назапасіла. І захоўваю іх у сабе. Гэта што ж атрымліваецца… Смерць і мяне забярэ? Не! Я хачу жыць!".**

**– Жыццё, ты адправішся са мной, – сказала Смерць.**

**І тады Жыццё стала ўгаворваць Смерць:**

**– Пачакай! У мяне ж так шмат спраў яшчэ! Дзеткі павінны вырасці. Унукаў хачу ўбачыць. На першы снег наглядзецца, урэшце, на ўзыход сонейка… Смертушка! Я ўдзячна, што спаткала цябе на сваім шляху. З гэтага часу я абяцаю, што буду шанаваць кожны момант, усю прыгажосць свету. Толькі дай мне, калі ласка, яшчэ адзін шанс, каб паспела дараваць усе крыўды і папрасіць прабачэння ва ўсіх, каму нанесла крыўды сама, – узмалілася Жыццё.**

**– Ну што ж, – сказала Смерць, – я дам табе шанс. Ідзі! Але памятай, што я заўсёды побач і сачу за тымі, хто перастаў шанаваць імгненне пад назвай жыццё.**

**І пайшло Жыццё па дарогах, просячы прабачэння ва ўсіх, каго пакрыўдзіла, і радасна дзякуючы ўсім акружаючым, што можа раздзяліць з імі гэтае імгненне.**

Так як мы рыхтуемся да вечнага жыцця ўжо падчас зямной вандроўкі, важна як мага раней перажыць навяртанне: маліцца і быць гатовымі да гэтага. Калі вядзём годнае хрысціянскае жыццё, то пасля смерці будзем запрошаны ў дом Айца.

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## Заданне:

**выпішы на картку імёны памерлых з Тваёй сям'і і маліся за іх кожны дзень на працягу лістапада, а таксама наведай разам з бацькамі могілкі.**

**Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі. На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.**

# Ад шчырага сэрца

**Паважаны Ксёндз Тадэвуш Крыштопік!**

З нагоды Імянін прыміце цёплыя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Няхай Усемагутны і Маці Божая заўсёды трымаюць Вас у сваёй апецы, а Святы Дух натхняе на добрыя і годная справы. Жадаем, каб святы Заступнік моцна трымаў Вас за руку і дапамагаў у розных складаных жыццёвых сітуацыях. Дзякуем за добрае слова і трапныя заўвагі. Аддзяч, Божа!

*З павагай, рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Дзмітрыю Лабкову**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага блаславення, апекі Панны Марыі на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы. Дзякуем за ахвярную працу, мудрае слова і бацькоўскі клопат пра сваіх парафіян.

*Вернікі з касцёла Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Дзмітрыю Лабкову**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, радасці, усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны прамянямі Божай міласэрнасці.

*Колы Жывога Ружанца, апостальства "Маргарытка" з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Дзмітрыю Лабкову**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, стойкасці на святарскім шляху. Няхай Пан Езус прытуляе Вас да свайго Сэрца і асвячае прамянямі міласэрнасці, а Маці Божая кіруе Вамі кожны дзень. Шчыра дзякуем за тое, што аддаеце нам усё – свае маладыя гады, здольнасці, сэрца – каб з'яднаць і наблізіць нас да Бога.

*Францішканскі ордэн свецкіх з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Безляповічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, радасці, людской добразычлівасці, а таксама Божага блаславення ў кожную хвіліну жыцця. Ад усяго сэрца дзякуем за тое, што Вы побач, за клопат пра кожнага з нас і пра касцёл. Няхай Маці Божая і святы Заступнік ахоўваюць і дапамагаюць, а Святы Дух дадае сіл, стойкасці на выбраным шляху і натхнення для здзяйснення ўсіх мар.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і блаславёны. Дзякуем за прыклад набожнасці, добрае сэрца і тое, што Вы з намі.

*Кола Жывога Ружанца і вернікі з в. Вінцукі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шмат здароўя, цярплівасці ў душпастырскай працы, апекі Маці Божай і святога Заступніка, дароў Святога Духа, патрэбных ласкаў ад Усемагутнага. Няхай Бог адорвае Вас сваёй любоўю і блаславеннем, людская дабрыня і зычлівасць заўсёды Вам спадарожнічаюць, а кожны дзень працы прыносіць шчодры плён. Дзякуем за паслугу і ўсе намаганні. Нізкі паклон Вашай маме за такога цудоўнага сына святара.

*Касцёльны камітэт і парафіяне, Геранёны*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай здароўе спрыяе, аптымізм ніколі не пакідае сэрца, побач будуць добразычлівыя людзі, святы Заступнік ахінае сваёй апекай, а Божы Провід вядзе па сцежках гэтага жыцця і дапаможа дайсці да Нябеснага Валадарства. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Дудаў*

**Паважанаму Ксяндзу Леанарду Станкоўскаму**

з нагоды Імянін шчыра жадаем усіх ласкаў ад усемагутнага Бога, нястомнай апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай здароўе заўсёды спрые, радасць і моц ніколі не пакідаюць, а побач будуць добразычлівыя людзі. Няхай Езус Хрыстус падтрымлівае ў кожнай справе, а святы Заступнік заўсёды чувае над Вамі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Солау*

**Паважанаму Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай святы Заступнік заўсёды будзе побач, штодзённа апекуецца Вамі і ўзносіць свае малітвы да Божага трона, каб Усемагутны нястомна адорваў Вас здароўем, радасцю, надзеяй і моцай.

*З памяццю ў малітве, вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5343; тыраж 4945; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная